

У беластоцкім музеі: усярэдзіне Гермес. Прыгожых багоў рабілі сабе грэкі

# ШЛЯХАМІ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ

(Працяг са стар. 1)

Можна б многа яшчэ расказваць аб экскурсіі, але можа вучні самі гэта апішуць на ўроку роднай мовы.

Што гаварыць? Многія сярод дзяцей ніколі не былі ў сапраўдным тэатры. А тут «Кард'ян» — п'еса, якая дзякуючы майстэрскай ігры акцёраў, дэкарацыі, даўнім уборам, ігры святла, перанясла іх у мінуўшую эпоху, так што на хвіліну забыліся, дзе знаходзяцца, і перажывалі разам з акцёрамі лёсы даўнейшых герояў.

Не, не буду больш пісаць. Хачу толькі выразіць сваё прызнанне Анастасіі Тропак — так любімым моладдзю дырэктару ліцэя, якая памагла арганізаваць экскурсію. Вучні пакінуць некалі школу, а ўспамін прыемнага і карыснага застанецца на далейшую дарогу жыцця.

Дзеці і моладзь асабліва павінны пазнаёміцца з роднай зямлёй. Заўсёды актуальнай будзе прымаўка: падарожжа вучыць.

Тэкст і фота **І. Р.**

# АБ УПАРАДКАВАННІ ГАЙНАЎКІ

(Працяг са стар. 1)

хутчэй палепшыць выгляд цэнтра Гайнаўкі, наш прэзідыум лічыць, што першачарговай задачай з'яўляецца накрэсленне плана ўпарадкавання горада, такога плана, які ахопліваў бы ўсе існуючыя патрэбы, незалежна ад таго, як гэтыя заданні можна выканаць.

Хто можа адпаведна апрацаваць такі план? На нашу думку, планам павінны заняцца ўсе аддзелы МРН, пачынаючы ад архітэктуры аж да адміністрацыі жылых дамоў і блокавых камітэтаў, якія могуць падказаць вельмі важныя справы са свайго квартала. Так створаны план (вядома, не на адзін год) мог бы быць выкананы пры пэўных вельмі важных умовах. Адной з іх з'яўляецца добрае выкананне сваіх абавязкаў фінансавымі ўстановамі і выканаўцамі. Вось, напрыклад, на вуліцы 1 Мая — на адной з цэнтральных вуліц Гайнаўкі — не зроблена яшчэ знешняя атынкоўка будынкаў, хоць фінансавыя ўстановы маюць на гэта грошы.

Яшчэ доўга Гайнаўка будзе адным вялізным пляцам будовы. Аднак, будуючы, трэба памятаць і аб дробных рэчах, як тратуары, скверы, месцы стаянак для аўтамашын, гаражы, асвятленне і г.д. Гэта дазволіць пры меншых намаганнях і меншым укладзе грошай дабіцца парадку і эстэтычнага выгляду горада. Да гэтага часу было так: дамы будуе ВДБОР, а аб малой архітэктуры няхай дбае прэзідыум МРН.

Вельмі патрэбна, на нашу думку, павялічыць фінансавыя сродкі МРН на ўпарадкаванне горада, на падтрыманне працы грамадскім чынам. Гэта цяжкая справа, але вельмі важная. Наша МРН атрымала ў 1963 годзе на гэтую мэту 138 тыс. зл. Гэтых грошай хапіла толькі на прылады і транспарт для абслугоўвання грамадскім чынам працуючых жыхароў пры ўпарадкаванні горада.

Неабходна, каб ва ўпарадкаванне свайго горада ўключыліся фабрыкі і ўстановы. Гайнаўку вельмі часта параўноўваюць з іншымі гарадамі ваяводства, асабліва з Замбровам, ставячы яе як прыклад хуткага давядзення горада да добрага выгляду. Аднак ніхто пры гэтым выразна не гаворыць аб адным: які канкрэтны ўдзел ва ўсім гэтым фабрык і ўстаноў. А варта ў нас аб гэтым гаварыць, бо гайнаўскія прадпрыемствы стаяць у гэтай справе неяк збоку. У Гайнаўцы нават на ачыстку снегу выязджае ў тры разы менш машын, чым павінна. У нашым горадзе ёсць нямала месц, якія маглі б з вясною зазелянець свежай травой, зацвісці кветкамі, калі б аб гэтым падумалі прадпрыемствы, установы, калі б усё гэта не скідалі «толькі на МРН», якая, праўду кажучы, мае даволі абмежаваныя магчымасці. Гэтую справу трэба ў Гайнаўцы добра абмеркаваць і канкрэтна ўрэгуляваць, асабліва ў адзначэнне XX-годдзя Народнай Польшчы.

**К. ЛЯШЧЫНСКІ**
Старшыня
Прэзідыум МРН
у Гайнаўцы

# У Любліне

У святліцу украінскага таварыства ў Любліне прыходзіць многа моладзі, сярод якой нямала беларусаў. Яны вучацца ў Люблінскіх вышэйшых школах. Амаль кожную нядзелю ў святліцы адбываюцца лекцыі, пераважна на літаратурныя тэмы, як, напрыклад, «Гумар і сатыра Украіны», «Жыццё і творчасць Івана Франко» і іншыя. У святліцы адбываюцца таксама рэпетыцыі украінскага харавога калектыву.

У працы гуртка праяўляе вялікую актыўнасць беларуская моладзь. Па яе ініцыятыве адбыліся цікавыя даклады на беларускай мове на тэмы: «Жыццё і творчасць Якуба Коласа», «Жыццё і творчасць Янкі Купалы». 23 лютага Кастусь Цішэўскі выступіў з дакладам таксама на беларускай мове ў сувязі з 45 гадавінай БССР. Запланавана лекцыя аб творчасці Дуніна - Марцінкевіча і спатканне з беларускімі паэтамі ў Польшчы.

**К. Цішэўскі**
Люблін

ПА СЛЯДАХ НАШЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ

# Можа быць лепей...

У летнім, дваццаць сёмым нумары «Нівы» быў надрукаваны рэпартаж пад назваю «Не адрубалі рукі».

Пісалі пра кумаўство, якое завялося ў праўленні сельскагаспадарчага гуртка ў Саках на Бельшчыне. Марнавалася тэхніка, трактарысты рабілі што хацелі, раслі страты. Кіраўнікі гуртка дбалі перад усім аб асабістай карысці, выгадзе. (Шаховіч з Сідаруком). Гэтым зацікавілася павятовая пракуратура.

Праўленне было зменена з вялікімі цяжкасцямі, бо гаспадары не верылі ў шчаслівы паварот занядбаных спраў. Новым старшынёю праўлення выбралі Уладзіміра Савіцкага, сакратаром Уладзіміра Цімашука, скарбнікам Мікалая Лазовіка. На апошнім сходзе сельскагаспадарчага гуртка ў Саках, які адбыўся ў лютым, падлічаны ўжо першыя даходы (раней былі страты да сарака тысяч злотых).

Значыць, можа быць лепей і будзе лепей.

(ся)

# НЕАБЫЯКАВЫЯ ЛЮДЗІ

(Працяг са стар. 1)

І тады мясцовы грамадскі апякун Браніслаў Задыковіч пачаў дзейнічаць. Сярод аднавяскоўцаў наладзіў добраахвотны збор збожжа і грошай. Грошай удалося яму сабраць ледзь 60 зл., але збожжа было многа больш, 6,5 цэнтнера. Апрача таго грамадскі апякун выклапатаў пагарэльцу аднаразовую запамогу з аддзела здароўя і з Камітэта грамадскай дапамогі. Сям'я Дубялевіча атрымала харчаванне, вопратку і крыху грошай.

Павел Т. з вёскі Шацілы асераціў жонку і чацвёра малых дзяцей. Жылі яны бедна, ды і асталіся сіраты без ніякіх сродкаў да жыцця. Нават пахаваць бацьку не мелі за што. Пайшла Рэгіна Пукшта, мясцовы грамадскі апякун, па хатах і сабрала для няшчаснай удавы 1000 злотых. Яна таксама знайшла людзей, якія па-суседску без заплаты дапамаглі ўдаве справіцца са жнівом.

Маладзенькая дзяўчына, Зютка Л. з Супрасля любіла пагуляць і... дагулялася. Аліментаў не змагла дабіцца, працаваць таксама не магла, бо не было каму пільнаваць дзіцяці. Бяда, хоць ідзі і ўтапіся.

Часлаў Кміта — супрасльскі грамадскі апякун — найперш дапамог ёй атрымаць харчавыя пачкі з Польскага камітэта грамадскай дапамогі. Але што ж. Пачкі Зютка з'ядала, і бяда ізноў шчырыла зубы. Трэба было знайсці нейкі другі выхад з гэтага крытычнага становішча. І ён знайшоўся, хаця грамадскаму апекуну некалькі раз даводзілася прыязджаць у Беласток і клапатаць па розных установах. Цяпер дзіця лёгкадумнай дзяўчыны ў доме для малых дзяцей, які знаходзіцца ў Беластоку, а яна сама працуе ў Супраслі.

Людзі, якім не абыякавы лёс другіх людзей ёсць не толькі ў Беластоцкім павеце. Яны спяшаюць з дапамогай тым, каму лёс сыпануў пяском у вочы.

**В. РУДЧЫК**

# Апошнія гадзіны

(Працяг са стар. 3).

пакрыўдзіў вас розумам... сілаю... Раю вам, як бацька, — скарыцеся... А цар — наш бацюшка — такім дарує сваю міласць. Падумайце...

Каліноўскі (падумаў). Перадайце... цару — вашаму бацюшку, што Каліноўскі просіць яго міласці... не засылаць да яго гэткіх дурных бацькоў.

Мураўёў. Устаць! Калі гаворыш з генералам Мураўёвым!

Каліноўскі. Паручык! Скажыце гэтаму старому, што Каліноўскі адпачывае перад тым, як адысці на той свет... Спакойнай ночы... (Хоча легчы).

Мураўёў (кідаецца з палкай). Крамольнік!..

Каліноўскі хутка ўстаў і з пагрозай глядзіць на Мураўёва.

Мураўёў (да афіцэра). Хто вешаць яго будзе?.. Наказаць, каб была новая вяроўка, старая ўжо страпалася аб шыі гэтай сволачы!..

Выходзіць, за ім усе.

Каліноўскі (услед). А ўсё ж вольнасць жыве ў сэрцы народа і будзе жыць! Чуеце?! Яна не памрэ!!! (Застаецца, прыхіліўшыся да дзвярэй). І гэтыя людзі маюць уладу, у іх руках лёс народа... (Чуваць стук у сцяну... Каліноўскі прыслухоўваецца). Гэта Домб? (Стукае яму... Чуваць адказ... Ізноў стукае). Дарагі Домб... Калісьці я выратаваў цябе ад пятлі... А тут... (Аглядае навокал. Ідзе да ложка, падае на яго. Пауза. У акно свеціць месяц. На вежы б'е дзве гадзіны. Каліноўскі прыўзняўся, слухае бой гадзінніка). Другая гадзіна... Засталося чатыры. Чатыры гадзіны яшчэ жыць, а там і... смерць... (Устаў). А ці ж смерць? Памрэ толькі цела, а душа мая, думкі мае — будуць жыць сярод народа... (Глядзіць у акно і спрабуе трасянуць краты). Эх, воля ты мая родная! Не святкуйце вы, што трымаеце маё цела, не стрымаць вам маіх думак. Яны там, на волі, яны сярод майго народа, раздуваюць у яго сэрцы іскарку на лепшае жыццё. І прыйдзе час, і раздзьмецца полымя народнае і спаліць вас, гвалтаўнікоў! Браткі мае родныя, я з вамі! Чуеце?! (Ідзе да стала, схіляецца над сталом і піша ліст). Беларусы, браты мае родныя! З-пад шыбеніцы царскай прыходзіцца мне пісаць да вас, і можа, астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не шкада загінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як бы з таго свету, толькі для дабра твайго напісана. Няма ж, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, калі чалавек мае розум і навуку. Але, як дзень з ноччу не ходзіць разам, так і навука праўдзівая не ідзе разам з няволяй панскаю. А пакуль яна ў вас будзе, у нас нічога не будзе. Ваюй, народзе, за сваё чалавечае права, за сваю волю, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывем шчасліва, калі над табой пана не будзе.

Паступова схіляецца галавой на стол. На сцэне цёмна. Пауза. Паволі світае. Гадзіннік на вежы б'е 6-ю гадзіну. Голас здалёк: «Караул, стройся! Смірна!» Голас афіцэра: «Здарова, рабяты!» Галасы: «Здравія жадаем, ваша высокаблагароддзе!» Голас афіцэра: «Напра-ва! Рады здвой. Шагам марш!» Чуваць крокі... «Стой!» Адчыняюцца дзверы. Уваходзіць афіцэр, два салдаты, нагляднік.

Афіцэр. Спіць... разбудзіць!

Нагляднік будзіць.

Каліноўскі. Што?

Афіцэр. Шэсць гадзін. Пара!

Каліноўскі (аглядаецца, успамінае). Пара! Ага... іду... іду... Зараз!.. (Нервова апрануў світку.) Гатоў! (Ідзе да дзвярэй.)

Усе выходзяць.

Голас афіцэра. Шагам... марш!

Забілі барабаны і паступова змаўкаюць.

Голас наглядніка. Камера нумар дваццаць шосты звольнілася...

Другі голас. Праветрыць камеру!

Уваходзіць нагляднік, ставіць зэдлік ля акна, адчыняе акно, глядзіць. Чуваць здалёку барабан.

Нагляднік. І чаго гэта людзям трэба? Чаго хочуць? На смерць ідуць!.. (Барабаны змоўклі.) Прывялі... На эшафот увайшоў... не пахіснуўся...

Голас афіцэра. Смірна! Па ўказу імператарскага вялічаства прысуджаны да смяротнае кары праз павешанне дваранін Кастусь Каліноўскі...

Голас Каліноўскага. У нас няма дваран... У нас усе роўныя!..

Голас афіцэра. Прыступіць да кары. (Ударылі барабаны).

Нагляднік (схіліўся пад акном, жагнаецца). Скончылася жыццё чалавека... (Раптам стук у сцены, другі, трэці... Стукі множацца... ажылі сцены... загаварылі... Нагляднік, пазіраючы на сцены.) Турма загаварыла...

Чуваць здалёк з усіх бакоў галасы, яны нарастаюць разам з песняй. Чуваць стрэлы і голас: «Зачыніць камеры!» Шум натоўпу.

Нагляднік (у жаху туліцца да сцяны). Турма бунтуе...

У акне ранішняя зара загараецца.

Заслона.

 

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# Тайна Вайдэндамерскага моста

Марцін Борман недзе хаваецца, жыве. На пасляваенным Нюрнбергскім працэсе фашысцкіх злачынцаў яго завочна засудзілі на кару смерці. Ён належаў да ліку найбольш давераных самога Гітлера, кіраваў канцылярыяй гітлераўскай партыі. Заставаўся пры Гітлеры да апошніх хвілін яго жыцця. Напярэдадні заканчэння вайны германскае вярхоўнае камандванне паведаміла, што 1 мая Адольф Гітлер пакончыў самагубствам (каб не трапіць часамі ў савецкія рукі ў акружаным Берліне, у падземным бункры канцылярыі Рэйха — ся).

А Борман?

* ✲ *

Пра доктара Вернера Ноймана, былога статс — сакратара ў гебельсаўскім міністэрстве прапаганды, мы зноў пачулі ў 1950 годзе. Ён маўчаў, як заклёты, калі пыталі яго пра факты, якія мелі месца ўначы з 1 на 2 мая 1945 года. Толькі ў мінулым годзе, восенню, доктар Нойман загаварыў у час пракурорскага следства ў заходненямецкім горадзе Франкфурт-на-Майне.

Група, у якой знаходзіліся Борман, Нойман, Кэмпка — асабісты шафёр Гітлера, доктар Штумфегер — лекар Гітлера, Артур Аксман — правадыр маладзёжнай арганізацыі Гітлерюгенд і другія, пакінула падземны бункер канцылярыі Рэйха ноччу 1 мая і дайшла да паўстанку метро Вільгельмштрасэ, у адлегласці каля 200 метраў. Нойман камандаваў групай, якая пайшла праз тунель у напрамку вакзала Фрыдрых. Нойман загадаў Борману ісці за ім. У такім парадку каля вакзала Фрыдрых выйшлі яны на паверхню і накіраваліся да маста Вайдэндамер, дзе разгарэлася крывавая бітва. Тут савецкі снарад узарваў цяжкі танк «Тыгр», які асланяў іх марш. Выбух аглушыў Ноймана, але, калі ён апрытомнеў, убачыў, што Борман жыве.

Аксман, як і Нойман, таксама цвердзіць, што Борман застаўся цэлым пасля ўзрыву танка на мосце Вайдэндамер і разам з другімі пайшоў у напрамку вакзала Лертэр. Але тут Аксман пачынае ўжо круціць — раз цвердзіць, што Борман з доктарам Штумфегерам пабеглі наперад, перад ім, у напрамку Альт-Маабіт, а ў другі раз гаворыць, што савецкі агонь прымусіў павярнуць назад і, адступаючы, ён напароўся на два трупы — Бормана і Штумфегера. Нібы пазнаў іх пры месячным святле, і ён упэўнены, што яны не жылі, хаця, як кажа, на целе Бормана «не заўважыў ніякіх відавочных ран».

Цікава, што труп доктара Штумфегера быў знойдзены і распазнаны. Калі верыць Аксману, дык побач павінен быў ляжаць труп Бормана, аднак ніколі ніхто не знайшоў па ім ніякіх слядоў. Таму франкфурцкая пракуратура лічыць, што Борману магло ўдацца ўцячы таксама, як і Нойману — прайсці праз савецкія пазіцыі, выехаць, загубіць за сабою ўсякі след і нават схавацца недзе ў Паўднёвай Амерыцы.

Гэтак сама думае Сімон Вішэнталь — дырэктар яўрэйскага цэнтра дакументацыі ў Вене, які адыграў вялікую ролю ў адшуканні гітлераўскага злачынца Адольфа Айхмана. Вішэнталь заявіў карэспандэнту гамбургскага часопіса «Шпігель»: **«Цяпер ніхто ўжо не сумняваецца ў тым, што Борман жыве».**

Варта прыпомніць, што ў час суда Айхмана ў Іерусаліме, многа разоў гаварылася аб магнітафоннай ленце, на якую Айхман наіграў расказ аб сваім жыцці. Яўрэйскім агентам не ўдалося здабыць гэтай ленты. Мае яе былы эсэсаўскі афіцэр Вілем Сасен, які з'яўляецца рэдактарам нямецкага часопіса «Дэр Вэг» у Аргенціне. Сасен не выдаў ленты франкфурцкай пракуратуры магчыма таму, што ў ёй Айхман расказвае аб спосабах тайнага выезду з Германіі і з Еўропы. Магчыма таксама і тое, што Айхман у сваім расказе, наіграным на ленту, успамінае аб фактах, якія датычаць і другіх высокіх гітлераўскіх дзеячоў, уцёкшых заграніцу, у тым ліку і Бормана. Як-ніяк, але сын Айхмана на допыце ў заходненямецкай генеральнай пракуратуры прызнаўся, што сям'я Айхмана пераконана ў тым, што Борман жыве. Сказаў ён гэта пасля арышту свайго бацькі тайнымі ізраільскімі агентамі.

Цесцем Бормана быў Вальтэр Бух, ветэран гітлераўскага руху, які доўгія гады з'яўляўся кіраўніком партыйнага суда ў гітлераўскай партыі. Некалькі год таму назад Вальтэр Бух памёр у Мюнхене і толькі пасля яго смерці ўдава, значыць, цёшча Бормана, адважылася даць паказанні пракурору. Расказала яна, што некалькі год таму назад яе мужа наведалі два незнаёмыя. «Увечары, пасля іх візіта, — кажа ўдава, — мой муж сказаў мне ў ложку аб Марціне Борману: «Ну, яшчэ аднак жыве гэта свіння...»

(а-ся)



# СМЕРЦЬ У ГЛЫБІЗНАХ



Мора — бязлітаснае мора. Штогод гіне на ім каля двухсот тысяч чалавек. Асцярожнасць, адвага, знаходлівасць і тэхніка — вось, што можа выратаваць чалавека ў страшным няшчасці.

Французскі вучоны д-р Ален Бамбар на гумовай лодцы «Ерэтык» пераплыў Атлантычны акіян. Сваім мужным подзвігам ён хацеў даказаць, што чалавек пасля марской катастрофы можа выжыць нават не маючы ніякіх запасаў — ні яды, ні вады. «Вадою» служыў яму сок, выціснуты са злоўленых рыб. (Марская вада моцна салёная, яе немагчыма піць).

На іншай фатаграфіі бачым новую мадэль ратавальнай лодкі, якую пабудавалі канструктары Даніі. Зачыніўшы люк, яна фактычна становіцца незатапляльнай і ў ёй можна перанесці найбольш жудасны шторм.




На апошнім здымку бачым, як англійскі верталёт ратуе французскіх рыбакоў з разбітага аб скалы траўлера паблізу паўвострава Карнуол (Англія).

(ся)

# ВЯСНА 1964

У папярэднім нумары мы замясцілі вясеннія плашчы. Цяпер падаем модныя касцюмы. Як бачыце, вельмі прыгожа выглядае касцюм з матэрыялу ў маленькую клетачку з модным вострым выразам. Пад такі касцюм можна пададзяваць ўсялякія блузкі і світры, найлепш аднаколерныя.

Паглядзіце на іншыя касцюмы. Жакеты ў іх падобны на мужскія пінжакі. Часта з паяскамі на таліі. Спадніцы вузкія або з закладкай спераду, а нават і па некалькі закладак.

Модныя матэрыялы — усялякія паскі і клетачкі.

(на)



# „САТУРН"

Васіль Ардаматкі

Хупенкотэн адляцеў 26 чэрвеня. А ў ноч на 27 чэрвеня ўвесь гарнізон «Сатурна» быў падняты па трывозе.

Наступленне савецкіх войск рабілася ўсё больш імклівым. Не далей як у вячэрняй зводцы гаварылася, што рускія, прарваўшы нямецкую абарону на невялікім участку фронта, самі лезуць у «кацёл». А ноччу Зомбаха падняў з ложка тэлефонны званок са штабу вайсковай групы «Цэнтр». Званіў генерал фон Грэскаў.

— Вам неабходна, — сказаў ён, — тэрмінова перадыслакавацца на захад. Я толькі што гаварыў з адміралам Канарысам. Мы зышліся на тым, што вам трэба пакуль перабрацца ў Мінск, прадбачыўшы, аднак, і далейшае перасоўванне з арыентацыяй на Брэст або, яшчэ лепей, Беласток.

— Што здарылася? — закрычаў Зомбах.

— Ідзе вайна, палкоўнік, — спакойна адказаў генерал.

Калі Зомбах ужо апрануўся, пазваніў Канарыс. Ён гаварыў са стаўкі.

— Калі вы можаце зняцца? — спытаў ён.

— Па графіку мы павінны пагрузіцца на працягу чатырох гадзін.

— Улічыце, руская авіяцыя вельмі актыўная. Магчыма, што вы застанецеся ў Мінску. Там у вашым карыстанні ваенны гарадок. Заўтра пры ўездзе ў Мінск вас будзе чакаць маёр Гордан. Дзейнічайце,

117

палкоўнік.

Па раскладу агульнай трывогі Рудзін павінен быў з'явіцца да галоўнага будынка і ўдзельнічаць пры пагрузцы на машыны маёмасці «Сатурна». Калі ён прыбег, там ужо стаяла калона машын і каля кожнай па чатыры салдаты. Ланцужок салдат стаяў і на лесвіцы ўнутры будынка. Ва ўсіх кабінетах супрацоўнікі быстра ўкладвалі паперы ў плоскія жалезныя скрыні, якія, як па канвееру, рухаліся па ланцужку салдат да выхаду, да грузавікоў. Побач з апошняй скрыняй дакументаў таго ці іншага аддзела ішоў начальнік гэтага аддзела. Прасачыўшы за пагрузкай апошняй скрыні, ён падыходзіў да стаячага ля ганка Мюлера і рапартаваў: «Чацвёрты аддзел пагружаны». Дзейнічала незнішчальная нямецкая арганізаванасць.

Рудзін стаяў на самым канцы ланцужка і перадаваў скрыні ўжо ў рукі салдат. Мяркуючы па ўсім, пагрузка заканчвалася, а маёмасці групы «Два ікс» яшчэ не выносілі. Не было відаць і супрацоўнікаў групы. Няўжо яны застаюцца? Гэта думка літаральна апякла Рудзіна. Што ж гэта атрымліваецца? Ён зараз паедзе невядома куды, а тое, дзеля чаго ён жыве і рызыкуе жыццём, застаецца тут? Застанецца і Шчукін — без сувязі і, значыць цалкам бескарысны.

Пагрузка закончылася. З будынка выходзілі супрацоўнікі, накіроўваючыся да аўтобусаў, якія стаялі наперадзе калоны. Вырашэнне прыйшло імгненна. Рудзін падыйшоў да Мюлера.

— Ці магу я, пане падпалкоўнік, развітацца са сваім калегам Шчукіным?

— Не можаце, ён заняты, — адрэзаў Мюлер і раптам здзіўлена паглядзеў на Рудзіна. — Даўно гэта вы сталі з ім сябрамі?

Рудзін не паспеў нічога сказаць, як да іх падбег маёр Глікштэйн, які адказваў пры эвакуацыі за дзесятку сатурнаўцаў, у якую ўваходзіў і Рудзін.

— Я ж шукаю вас, пане Крамер! — закрычаў ён. — Усе ўжо ў аўтобусе! Зараз жа на сваё месца!...

118

Збянтэжаны Рудзін казырнуў Мюлеру і пабег да аўтобуса.

Калона з маёмасцю і супрацоўнікамі «Сатурна» рушыла ў дарогу. Машыны імчалі на вялікай хуткасці, не запальваючы фар. Відавочна, было вырашана да світання ад'ехаць як можна далей. Рудзін глядзеў у акно і думаў аб сваёй памылцы. Учора ён праз Бабакіна перадаў Маркаву данясенне аб эвакуацыйным загадзе Зомбаха, але адначасова паведаміў, што ніякіх прыкмет неадкладнай эвакуацыі няма і што, на яго думку, пры любым тэмпе яе падрыхтоўкі ў запасе будзе не менш двух сутак. Ён не прыняў у разлік нямецкую арганізаванасць, а ў выніку партызаны, перакінутыя да гэтай шашы, не знаюць аб выездзе «Сатурна», і напад на калону можа не адбыцца. А група «Два ікс» засталася там, і ўсялякая сувязь са Шчукіным згублена. Што можна зрабіць? Што?.. За акном была толькі цемра.

Некалькі кіламетраў ад Мінска калону сустрэў маёр Гордан. Ён паказаў дарогу ў адведзены «Сатурну» ваенны гарадок, які размяшчаўся прыкладна кіламетр ад шашы, ад якой ён быў скрыты сасновым лесам. Машыны былі замаскаваны ў сасновым пералеску, а ўсіх супрацоўнікаў правялі ў прыземісты будынак, дзе іх ужо чакаў абед. У гарадку размяшчалася танкавая дывізія СС, але па ўсім было відна, што яна збіраецца пакінуць гэта месца. Рудзін чуў, як танкіст насмешліва сказаў аднаму з афіцэраў «Сатурна»:

— Усё правільна: штабы ўцякаюць на захад, а салдаты — на фронт.

Ноччу танкісты па трывозе пакінулі гарадок. Усю ноч сатурнаўцы не спалі з-за дзікага выцця танкавых матораў. Потым увесь дзень яны, як сонныя мухі, поўзалі па апусцелай тэрыторыі гарадка. Зомбах неадлучна ўвесь дзень знаходзіўся ля тэлефоннага апара-

119



 

